наша СВАБОДА

№8(95) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

22 СТУДЗЕНЯ 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Цяжкая місія пракуратуры

Рэдакцыя

Пракуратура Беларусі адрэагавала на матэрыял «Врачебное заключение», які быў надрукаваны ў газеце НАША СВАБОДА 12 студзеня. Пракуратура палічыла, што матэрыял утрымлівае паклёп на асобу кіраўніка дзяржавы, і ўзбудзіла крымінальную справу па гэтым факце. Вось тэкст афіцыйнага паведамлення, разасланага ў афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі:

*«12 студзеня ў сетцы Інтэрнэт, а потым у газеце «Наша свобода» распаўсюджаны паклён у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.*

*Па факту паклёпу ў дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі пракуратурай рэспублікі ў адпаведнасці з нормамі Крымінальна-працэсуальнага кодэкса 17.01.2001 г. узбуджана крымінальная справа па частцы 1 артыкула 367 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (паклён у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь).*

*У мэтах поўнага і аб'ектыўнага расследавання гэтай крымінальнай справы створана следча-аператыўная група з супрацоўнікаў пракуратуры і Камітэта дзяржаўнай бяспекі. Па справе праводзяцца неабходныя следчыя дзеянні.»*

(НАША СВАБОДА гэтае паведамленне не атрымала, таму тэкст перадрукоўваецца з газеты «Звязда» без змяненняў). ▶

Заканчэнне на стар.3

# Следчая група па справе Завадскага на мяжы роспуску

Генадзь БАРБАРЫЧ

Сітуацыя з расследаваннем знікнення Дзмітрыя Завадскага становіцца крытычнай. Пра гэта ў інтэрв'ю БелаПАН 19 студзеня заявіў кіраўнік аддзела спецпраектаў ОРТ Павел Шарамет.

Паводле звестак Шарамета, следчая група, якая займаецца расследаваннем знікнення Завадскага, а таксама іншымі цяжкімі злачынствамі, знаходзіцца на мяжы роспуску. «Следчыя КДБ, якія ўдзельнічалі ў гэтай справе, фактычна адхіленыя. Адхіленыя і следчыя МУС», — сказаў Шарамет. Паводле ягоных звестак, следчая група расследавала адразу некалькі злачынстваў, ва ўчыненні якіх падазраюцца былы афіцэр «Алмаза» Валерый Ігнатовіч, баец гэтага ж спецпадраздзялення МУС Максім Малік і іншыя асобы. Гэта, прынамсі, 7 злачынных эпізодаў: забойствы прадпрымальнікаў у Жодзіна і Барысаве, забойства прадпрымальніка і яго прыёмнай дачкі ў Мар'інай Горцы, забойства азербайджанскай сям'і ў Мінску, збіццё кіраўніка кантрольна-рэвізійнага ўпраўлення міністэрства культуры Грыгор'ева, забойства кіраўніка беларускага аддзялення РНЕ Глеба Самойлава, выкраданне Дзмітрыя Завадскага. ▶

Заканчэнне на стар.3


Ноч на Вадохрышча

# Прэзідэнцтва Буша — адлік пайшоў

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

У 12.00 па мясцовым часе 20 студзеня ў Вашынгтоне адбылася ўрачыстая цырымонія перадачы ўлады. 43 прэзідэнт ЗША Джордж Уокер Буш-малодшы змяніў Біла Клінтана на кіруючай пасадзе. Надвор'е не вельмі спрыяла ўрачыстасці, ішоў моцны дождж, аднак было вырашана правесці інаўгурацыю новага прэзідэнта ў адпаведнасці з традыцыяй — на свежым паветры на Капіталійскім халме.

Дж.Буш, стоячы на прыступках Капітолія, прачытаў неабходныя па пратаколе 35 словаў прэзідэнцкай клятвы: «Я, Джордж Уокер Буш, урачыста клянуся і пацвярджаю, што буду сумленна выконваць абавязкі прэзідэнта Злучаных Штатаў і буду, наколькі дазволяць мае сілы, зберагаць, ахоўваць і абараняць Канстытуцыю Злучаных Штатаў. І дапаможа мне Бог!».

Прэзідэнцкая прысяга прыносіцца на Біблії, выдадзенай у 1767 годзе. Менавіта на ёй прысягаў у 1789 годзе першы прэзідэнт Амерыкі Джордж Вашынгтон. З моманту прынясення прысягі Дж.Буш лічыцца новым прэзідэнтам ЗША.

Ва ўрачыстай прамове перад амерыканскім народам Дж.Буш паабяцаў аб'яднаць амерыканскую нацыю пасля самых складаных у гісторыі ЗША прэзідэнцкіх выбараў. Ён паабяцаў будаваць адзіную нацыю справядлівасці і адкрытых магчымасцяў, а таксама знізіць падаткі, што вельмі зацікавіла публіку. Пасля яго прысягу прынёс і новы віцэ-прэзідэнт ЗША Рычард Чэйні. Абедзве прысягі прымаў старшыня Вярхоўнага суда ЗША Уільям Рэнквіст.

Потым прэзідэнцкі картэж па вуліцы Пенсільванія-авеню накіраваўся ў Белы дом, які ў гэты момант пакідала мінулая адміністрацыя. Зранку ў суботу Дж.Буш, Р.Чэйні і іхнія жонкі ўжо пабылі ў прэзідэнцкай рэзідэнцыі для таго, каб па традыцыі папіць кавы з папярэднікамі – Білам Клінтанам, Албертам Горам і іхнімі супругамі. Дагэтуль яны ўсе разам схадзілі на набажэнства ў царкву Святога Яна, што месціцца непадалёк ад Белага дома.

На шляху картэжа Дж.Буша сталі тысячы дэманстрантаў, якія пратэставалі супраць абрання яго прэзідэнтам. Як вядома, вынікі выбараў заставаліся спрэчнымі на працягу больш чым месяца. ▶

Заканчэнне на стар.3

# Страна воров

## Российская пресса комментирует арест Павла Бородина

Трофим ЛОБАЧЕВ

Европа отгораживается от нас визовым барьером – не хуже «железного занавеса». Да и подавляющее большинство других стран уже давно отгородилось, а большинство из этого большинства устраивают из процесса впуска лиц с российским паспортом изощренное глумление. В мире сегодня господствует одно представление о русских – это люди без чести, совести, бандиты, отмывающие деньги и обходящие законы везде, где только могут придумать. Пусть теперь хотя бы один из членов так называемой российской «элиты» почувствует это на собственной шкуре.

Подавляющее большинство российских обывателей с чувством глубокого удовлетворения восприняли весть о доблестных действиях американской службы иммиграции и натурализации, взявшей под микитки бывшего кремлевского завхоза, некогда входившего в десятку самых влиятельных людей нашей славной страны. Формально он пока не осужден – ни американским судом, ни швейцарским, поэтому может считаться невиновным. Однако швейцарский суд, как известно, в свое время оправдал (по формально правовым признакам) даже Михася, не сумев доказать, что тот принадлежит к солнцевской преступной группировке...

Что же касается нашего экс-завхоза, бывшего одно время коллегой самого Владимира Владимировича и одаренного после выборов почетной должностью с подразумеваемой большой материальной ответственностью, то любой мало-мальски представляющий себе, как делается бизнес в России (тем более, большой бизнес), сразу же вам, конечно, подтвердит, что люди уровня Пал Палыча – ну да, конечно же, совершеннейшие овечки и никогда ни в чем не виноваты, а по кристальной честности своей могут состязаться с нищими на церковной паперти. ▶

Окончание на стр.3

## НАВІНЫ

- **У міністэрстве сацыяльнай абароны мяркуюць, што ў лютым пенсіі ў Беларусі павялічацца ў сярэднім на 14%.** Некаторыя пенсіянеры могуць спадзявацца на адрасную сацыяльную дапамогу, уведзеную з пачатку 2001 года і складаючую зараз 17 тысячаў рублёў. На сёння ў краіне жывуць 2,5 мільёны пенсіянераў, 400 тысячаў з якіх інваліды.
- **Нацыянальны банк і Савет міністраў зоймуцца прымусовай ліквідацыяй банка «БелБалтыя».** А.Лукашэнка даў распараджэнне да сярэдзіны лютага 2001 года распрацаваць механізм пераафармлення і пагашэння ўкладаў насельніцтва. А гэта 18 мільёнаў долараў.
- **Паводле словаў начальніка Галоўнага ўпраўлення эканомікі міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Сямёна Шапіры, «у аграпраме зараз дужа цяжкае становішча».** Што да калгаснікаў, то С.Шапіра сказаў, што яму няўцям, «як яны там жывуць і працуюць ды яшчэ і нас кормяць». Такі толькі факт: калі ў краінах ЕЭС вядро бензіну селяніну абыходзіцца за паўвядра малака, у Расіі – за 2, у Беларусі – за 7.
- **У хуткім часе ў Беларусі будзе праведзеная рэструктурызацыя рынку алкагольных напояў.** У прыватнасці, плануецца, што вытворчасць алкаголю з утрыманнем этылавага спірту больш за 28% штогод будзе скарачацца на 5%. Разам з тым будуць уведзеныя квоты на экспарт і імпарт алкагольнай прадукцыі.
- **На пачатак года запазычанасць сельскагаспадарчага комплексу Магілёўшчыны за электраэнергію склала 33 мільярды рублёў.** У 1999 годзе тут заплацілі толькі за 10% спажытай энергіі. Тое самае ў жыллёва-камунальныя сектары вобласці і ва ўстановах культуры і адукацыі – запазычанасць роўная адпаведна 10 і 2 мільярдам рублёў.
- **Распрацаваны праект вырaтавання аднаго з буйнейшых балотаў у Еўропе, што знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі ў заказніку «Ельня».** Перш за ўсё трэба аднавіць тут узровень вільгаці. Дзеля гэтага на меліярацыйных каналах будуць пабудаваныя 25 дамбаў. Толькі ў 1999 годзе ў выніку засухі і гарэння торфу знішчана чвэрць балота.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1240



## Кандуіт і Швамбранія супраць!

Хто такі Павел Барадзін? Для нас — ніхто. Тое, што крамлёўцы паставілі яго ў кампанію да Лукашэнкі, каб было лягчэй прыбраць да рук нашу краіну, не робіць Барадзіна законным міждзяржаўным прадстаўніком. Віртуальная расійска-беларуская краіна Усярусія юрыдычна не існуе. Яна зробленая па матывах вядомай дзіцячай аповесці Льва Касіля «Кандуіт і Швамбранія». Там два хлопчыкі прыдумалі сабе краіну, далі ёй назву, намалявалі яе мапу, напісалі Канстытуцыю і г.д. А сябе прызначылі кіраўнікамі. Барадзін для нас такі вось кандуіст-швамбраніст.

А хто такі Барадзін для расіянаў? Былы загадчык крамлёўскай гаспадаркі, дружбан-карыфан Ельцына, хітры і лiслiвы мардаты дзядзька, які, гавораць, не прапусціць каб украсці. У Маскве ўжо ходзяць легенды, колькі ён прыбраў падчас рэстаўрацыі Крамля. Называюцца розныя астранамічныя сумы, але ніхто за гэта дзядзьку ўсур'ёз не цісне. Дружбаны не даюць. На гэтым стаяла, стаіць і стаяць будзе расійская дзяржаўная ўлада. Інакш ёй каюк.

Магчыма таму Павел Барадзін з ахвотай бярэцца за новыя шматмільённыя праекты, прыдумляе сабе новыя магчымасці, каб сябе не крыўдзіць. Цяперашняя пасада Барадзіна – сядзець у кабінеце праўлення Усярусіі, якое, мусіць, не такое шыкоўнае, як Крэмль, і не дае таго аб'ёму ў золаце і дыямантах, каб можна было цягнуць вагонамі. Дык і тут дзядзька не схібіў: прыдумаў суперпраект еўрапейска-азіяцкай транспартнай магістралі праз Беларусь аж да Масквы. Носіцца з ёю, як Базыль са шпакоўняй, актыўна шукае выканаўцаў праекта. Тут хітрасць такая, што нехта ж павінен будаваць гэтую магістраль за вялікія прыватныя і дзяржаўныя грошы. Дык частку гэтых грошай (чвэртку ці болей) трэба потым аддаць назад заказчыку з рук у рукі і патаемна. Такі прыём называецца ў дзяржаўных злодзеяў «адкат». Такая ёсць завядзёнка ў Маскве, так у іх павялося з часоў татара-мангольскай навалы. Традыцыя называецца. Заказчык тады мусіць падзяліцца з іншымі кабінетнымі маскоўскімі пацукамі. А тыя яго будуць бараніць, калі што якое. Калі раптам пракурор прачнецца ці недарэчнасць якая атрымаецца. Вось такая сістэма. Рука руку мые. Калі хто не ведае, дык яна называецца мафіяй.

У Маскве красці можна, але нельга красці ў Еўропе. Не, вядома, і ў Расіі, як і на Беларусі, за якога-небудзь гусака ўкрадзенага ці якіх дзвесце даляраў дадуць гады з тры. Але калі ўкраў так многа, што хапае, каб падзяліцца з начальнікамі, дык тады красці можна смела і далей. Тады табе нават будуць спрыяць і падахвочваць. Таму еўрапейцы ўсіх злодзеяў ловяць, а маскоўцы – толькі тых, хто крадзе мала. І Барадзін не такі чалавек, каб мала. Таму пасля яго арышту па ордэры швейцарскай пракуратуры ў Расіі падняўся такі вэрхал. Нават адступныя швейцарцам прапанавалі, каб тыя толькі адпусцілі дзядзьку. Сістэма дзяржаўнай улады заадно з Барадзіным. Таму за яго заступаюцца такія высокія начальнікі. Цікава, што ўсе расійскія камуністы, Жырыноўскі, Ілюхін, Чарнамырдзін, думцы, дыпламаты, губернатары, пракуроры паядналіся на адным: гэта правакацыя супраць Расіі. А між тым ніхто з іх нават і не пытаецца: краў Барадзін швейцарскія грошы ці не. Ведаюць, мусіць, што краў.

На гэтым фоне выскачылі на арэну цырка і беларускія інтэграсты з недарэчнымі прэтэнзіямі на адрас Вашынгтона: «Якое мелі права?». Таксама за кампанію заступіліся за Паўла Барадзіна: «Кандуіт і Швамбранія супраць арышту!» А ім чаго не сядзіцца? Якое яны маюць дачыненне да маскоўскіх грошай? Цікава... ■

# Барысаўскія прадпрымальнікі страйкуюць да лютага

Рыгор БУЯН

**Да тысячы індывідуальных прадпрымальнікаў і жыхароў Барысава сабраліся 19 студзеня на гарадскім стадыёне, каб заявіць, што «Альтэрнатывы рынку няма!».**

Мітынг пад такім ды іншага кшталту лозунгамі («Дарогу прадпрымальнасці!», «Дарогу ўласнасці!», «Нашым дзецям – дэмакратычную краіну!», «Не – канфіскацыям!», «Так – інвестыцыям!», «Надзеі на бацьку зніклі!») арганізаваны Свабодным прафсаюзам прадпрымальнікаў у знак пратэсту супраць існуючага парадку мытнага афармлення тавараў з трэціх краінаў, што завозяцца на Беларусь з Расіі, і высокіх падаткаў. Апрача таго, мітынг вырашыў працягваць страйк індывідуальных прадпрымальнікаў да канца студзеня, у той час як уся краіна пасля страйку 1-5 студзеня ўжо працуе.

У выніковай рэзалюцыі мітынгу гаворыцца: «Мы заклікаем кіраўніцтва краіны да разважнасці. Гісторыя ніколі не даруе эксперыментаў, закладнікамі якіх становяцца мільёны людзей. Неабходна наладзіць канструктыўны дыялог з урадамі цывілізаваных краінаў дзеля пабудовы на Беларусі рыначнай эканомікі і развітой грамадзянскай супольнасці». Дэманстранты заклікалі мясцовую «вертыкаль», ад якой на мітынгу прысутнічаў першы намеснік старшыні гарвыканкама Мікалай Чарняўскі, не чыніць перашкодаў дробнаму і сярэдняму бізнесу.

На мітынгу сярод іншых «засвяціўся» і былы міністр абароны, цяпер прэзідэнт Фонду рэабілітацыі здароўя былых вайскоўцаў Павел Казлоўскі, які ўжо публічна выказаў гатоўнасць балатавацца кандыдатам у прэзідэнты. П.Казлоўскі ў сваёй прамове заявіў, што сацыяльная палітыка А.Лукашэнкі ў дачыненні да вайскоўцаў цалкам сябе скампраметавала,ператварыўшы многіх вайскоўцаў у беспрацоўных ды бізнесменаў. ■

# Занепад беларускай эканомікі працягнецца

Мікалай ГРАЧУХА

Эканоміка Беларусі развіваецца ў рэчышчы палітычных дэтэрмінантаў. Такое меркаванне выказаў прэзідэнт аналітычнага цэнтра «Стратэгія» Леанід Заіка, выступаючы 19 студзеня ў Мінску на брыфінгу прадстаўнікоў Беларускай асацыяцыі фабрык думкі.

Праявамі палітычнай дэтэрмініраванасці беларускай эканомікі Леанід Заіка, у прыватнасці, лічыць рост рэальных даходаў на 18% пры 6% прыросце ВУП, а таксама ўстаноўку на 100-доларавую сярэднямесячную зарплату да сярэдзіны 2001 года.

На ягоную думку, гэта магчыма ў кароткатэрміновай перспектыве, але можа аказаць вельмі неспрыяльнае ўздзеянне на эканоміку: павышэнне ўзроўню даходаў насельніцтва ідзе на карысць перш за ўсё імпарцёрам, а нацыянальныя вытворцы «аказваюцца ўбаку».

Нягледзячы на тое, што Беларусь па індэксе чалавечага развіцця (з улікам ВУП на душу насельніцтва, які ў 2000 годзе склаў 6.900 долараў ЗША) апярэджвае Расію, на думку кіраўніка цэнтра «Стратэгія», бягучы год будзе вельмі складаным для беларускай эканомікі. Беларусь, адзначыў ён, прайграе барацьбу за знешнія рынкі збыту Расіі, Украіне і іншым краінам СНД, а галоўныя экспарцёры рэспублікі — «Беларуськалій» і Мінскі трактарны завод — згубяць рынкі ў краінах СНД на 80% і 30% адпаведна. ■

БелаПАН

ФОТАФАКТ



Водохрышча. Чарга за святой водой

# У Беларусі выконваецца 1/5 навуковых праграмаў

Марат ГАРАВЫ

19 студзеня ў Мінску ў будынку прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылося паседжанне калегіі Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях (ДКНТ).

Паводле словаў першага намесніка старшыні ДКНТ Уладзіміра Байкова, эфектыўнасць выкарыстання навуковага патэнцыялу краіны ва ўмовах абмежаванага фінансавання можна павысіць шляхам пераразмеркавання сродкаў на найбольш важныя навукова-тэхналагічныя накірункі. Каб да 2005 года амаль удвая павысіць навукаёмістасць ВУП, сёлета асігнаванні на навуку крыху ўзрастуць і складуць 3% расходнага артыкула бюджэту. Разам з тым намеснік старшыні ДКНТ выказаў спадзяванне на павелічэнне аб'ёму замежных інвестыцыяў у айчынную навуку. «Толькі сума рэалізуемых беларуска-кітайскіх навукова-тэхнічных кантрактаў, якая складае 47 мільёнаў долараў ЗША, прыкладна роўная навуковаму бюджэту краіны», — падкрэсліў У.Байкоў.

Разам з тым, паводле ягоных словаў, дзяржава дагэтуль не вярнула навуцы даўгі, якія складаюць амаль 10% леташняга аб'ёму фінансавання галіны. Кіраўніцтва ДКНТ спадзяецца, што часткова гэтыя сумы будуць пагашаныя дзяржавай на працягу студзеня.

Закрануўшы ступень выканання розных навукова-тэхнічных праграмаў, У.Байкоў назваў нонсенсам той факт, што яна не перавышае 22% ад колькасці рэалізуемых праектаў. ■

БелаПАН

# Беларускія танцы ад БМАgroup

Ірына ТОЎСЦІК

Дыскатэка пад назвай «Вольныя Танцы» была праведзеная Беларускай Музычнай Альтэрнатывай (БМАgroup) 20 студзеня ў клубе «Акварыум».

Сярод пакупнікоў альбома «Вольныя Танцы: Новая Альтэрнатыва» і даслаўшых у БМА латарэйны квіток быў праведзены розыгрыш прызоў, уладальнікамі якіх сталі 10 чалавек. Па тры канверты з прозвішчамі цягнулі Ганс, бубнач з гурта «Уліс», Алесь Таболіч (гурт «Зніч») і старшыня прэс-службы БХК Зміцер Маркушэўскі. Прызы — відэакасеты і кампакт-дыскі — атрымалі тры чалавекі. Астатнія пераможцы, а іх шасцёра, будуць слухаць кампакт-дыск альбо аўдыёкасету. Быў і спецыяльны прыз—запрашальнік на прэзентацыю новага касетнага альбома «Песні пра каханне», прысвечанага Дню закаханых.

На дыскатэцы былі раздадзеныя анкеты для ўсенароднага галасавання ў вызначэнні самых правальных рок-праектаў беларускай сцэны 2000 года, «самай бессэнсоўнай песні, горшага гурта года, самага беспантовага кліпа» і г.д. Акцыю пад назвай «Рок-гільяціна 2000» прэзентуе газета «Навінкі» пры падтрымцы «Музыкальной газеты».

Перад дыскатэкай адбылася прэс-канферэнцыя. Створаная ў 1996 годзе маладзёжная ініцыятыва БМАgroup строга прытрымліваецца сваёй першапачатковай мэты—падтрымка сучаснай беларускай музычнай культуры. Слухачам, якія ўважліва сочаць за дзейнасцю БМА, пэўна, вядомыя ўсе беларускія музычныя выданні. А вось што прапануе яна на гэты год: чарговыя альбомы з серыі »Беларускі музычны архіў»—The best Сяржука Сокала-Воюша і Віктара Шалкевіча, выданне кампакт-дыска «Легенды Вялікага Княства» ( музыка старажытнай беларускай дзяржавы), прэзентацыя «самага чэснага музычнага часопіса POST 'R», а таксама выданне трэцяга кампакт-дыска з серыі «Вольныя Танцы». ■

# На ўзвышшы ліцэйскага свята

Ірына ТОЎСЦІК

Беларускі дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа 19 студзеня завяршыў святкаванне свайго 10-годдзя ўрачыстым канцэртам у памяшканні Палаца культуры МАЗ.

18 студзеня на сцэне ТЮГа ліцэістамі быў прадстаўлены «Народны альбом». Гэта ўжо не школьная самадзейнасць, а наближанае да тэатральных дзеяў рэч, рэжысёрам і сцэнарыстам якой выступіў дырэктар ліцэя Уладзімір Колас.

Заключны канцэрт юбілейных ліцэйскіх урачыстасцяў наведаў дэпутат палаты прадстаўнікоў Іван Пашкевіч, які ў сваёй прамове выдаў сябе за шчырага патрыёта. А Лявон Баршчэўскі, вядомы змагар за беларускасць і намеснік дырэктара, пацiснуў яму руку. Выступленне І.Пашкевіча згладзіў гурт «NRM», які прадставіў гледачам інсцэніраваныя выбары прэзідэнта. Кандыдатамі ж на гэты пост былі самі ўдзельнікі. Кожны зрабіў прамову з абавязковым «тыцканнем пальца» ў бок іншага кандыдата і абавязковай пахвалой сябе з заклікам «галасуйце за мяне».

Апрача выступлення «Камераты», Тодара Вайцюшкевіча («Крыві»), пісьменніка Рыгора Барадуліна, барда Алеся Камоцкага і іншых, перыядычна паказвалася ліцэйская хроніка.

Завяршылі свята выкладчыкі — спевам студэнцкага гімна. ■

# «Лялькі» не ад Шэндэровіча

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

Лялечная выстава беларускіх мастакоў працуе ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце. Яе аўтары Людміла Краснеўская-Кашкурэвіч, Ледзі Олвен (псеўданім Наталлі Чарнышовай), Ганна Балаш, Алена і Мікалай Байрачныя вынеслі на суд гледачоў лялькі, апранутыя ў дакладныя гістарычныя копіі старажытнага адзення і ў рамантычныя сукенкі, а таксама сярэднявечных рыцараў і постаці, створаныя невычэрпнай аўтарскай фантазіяй.

Гэта хоць і не «Лялькі» Шэндэровіча, але ўсё роўна захапляльнае відовішча. ■

# Транспарт зноў падаражэў

Кірэй МАНУЙЛА

Паводле загада міністэрства транспарту, з 18 студзеня чарговы раз (папярэдняе падаражэнне было ў леташнім лістападзе) павялічыліся тарыфы на праезд у аўтобусах прыгарадных і міжгародніх маршрутаў. У сярэднім кошты ўзраслі на 8%.

Цяпер 1 кіламетр у звычайных прыгарадных аўтобусах агульнага тыпу будзе каштаваць 8,9 рубля, з мяккімі адкіднымі крэсламі – 9,5 рублёў, а ў хуткасных аўтобусах – 11,6 і 12,3 рубля. На міжгародніх рэйсах кіламетровы тарыф у аўтобусах агульнага тыпу роўны 13 рублёў, з мяккімі крэсламі – 14,8 рубля, у хуткасных паболей – 16,8 і 19,2. Разам з тым на 12,5% павялічыўся кошт браніравання квітка – з 40 да 45 рублёў.

Тым часам з 20 студзеня на 50% падвысіліся кошты на праезд у гарадскім транспарце ў Мінску. Поўная цана квітка стала 60 рублёў, ільготнага – 30 рублёў. Раней было адпаведна 40 і 20 рублёў. У кіроўцаў квіток каштуе ўжо 75 рублёў. Тым не менш гэтыя тарыфы ўсё адно не дазволяць транспартнікам выйсці на самаакупляльнасць, бо дзеля гэтага праезд у метро павінен каштаваць прыкладна 130 рублёў, а ў аўтобусе – 150 рублёў.

З лютага падаражэюць праязныя білеты. Так, цана на праязны на ўсе віды транспарту ўзрасце ў паўтара раза – з 3.200 да 4.800 рублёў. Нагадаем, што дагэтуль тыдзень таму падаражэла сталічнае таксі – да 275 рублёў удзень і 410 рублёў — уначы. ■

# Камуністы хочуць камуніста

Рыгор БУЯН

70% апытаных членаў Партыі камуністаў Беларускай лічаць неабходным вылучаць партыйнага кандыдата ў прэзідэнты. Такія вынікі дало ўнутрыпартыйнае сацыялагічнае апытанне, праведзенае ў снежні мінулага года, падчас якога былі апытаныя 5 тысяч камуністаў, ці 60% сяброў ПКБ.

67% рэспандэнтаў лічаць прайшоўшыя ў палату №2 выбары несправядлівымі, няроўнымі і недэмакратычнымі, і толькі 22% апытаных прытрымліваюцца процілеглага меркавання. 11% не змаглі адказаць на пастаўленае пытанне. 75% камуністаў выконвалі партыйныя даручэнні падчас парламенцкай кампаніі 2000 года, што сведчыць пра вялікую палітычную актыўнасць камуністаў; толькі 23% самаўхіліліся ад партыйнай работы.

Досыць цікавыя вынікі атрымаліся з адказаў на пытанне «Якім мусіць быць удзел ПКБ у прэзідэнцкіх выбарах 2001 года?». Пераважная большасць камуністаў – 70% — заявілі, што партыя мусіць вылучаць свайго кандыдата, 13% выказаліся за падтрымку незалежнага кандыдата, блізкага камуністам па поглядах, 3% могуць падтрымаць іншага «левага» кандыдата; і толькі 7% жадаюць паўторна наступіць на граблі, падтрымаўшы Аляксандра Лукашэнку. ■

# Урачы аб'яднаrange ў Саюз

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

Урачы Магілёўшчыны стварылі Лекарскі саюз, які быў зарэгістраваны 15 студзеня. Старшынёй саюза стаў Сяргей Кунцэвіч. Ініцыятарамі стварэння новай грамадскай арганізацыі выступілі каля 20 высокакваліфікаваных спецыялістаў, які працуюць у гарадскіх бальніцах ды паліклініках. За мэты Лекарскага саюза прапаганда здаровага ладу жыцця, стварэнне ўмоваў для прафесійнай адукацыі і самаадукацыі, садзейнічанне прафесійнай рэалізацыі медыкаў.

Дабіцца рэалізацыі пастаўленых мэтаў новастворaная арганізацыя плануе наладжваннем канферэнцыяў для медыкаў. З лютага спецыялісты Лекарскага саюза пачынаюць вучыць падлеткаў фізіялогіі, гігіене, прадухіляць хваробы ды аказваць першую медычную дапамогу. ■

# Цяжкая місія пракуратуры

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Варта зазначыць, што ўпершыню ў гісторыі Беларусі распачатае следства па артыкуле 367 Крымінальнага кодэкса – аб абароне гонару і годнасці прэзідэнта:

*Артыкул 367. Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь*

*1. Паклёп у дачыненні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які ўтрымліваўся ў публічным выступленні, або ў друкаваным, або ў публічна дэманстраваным выступе, або ў сродках масавай інфармацыі –*

*караецца штрафам, або папраўчымі працамі на тэрмін да двух гадоў, або абмежаваннем свабоды на тэрмін да чатырох гадоў, або пазбаўленнем свабоды на такі ж тэрмін.*

Узбудзіўшы крымінальную справу па гэтым артыкуле, Пракуратура Беларусі паставіла сябе ў надзвычай складанае становішча. Справа ў тым, што следчыя пракуратуры і КДБ мусяць даказваць факт парушэння заканадаўства. Для таго, каб давесці, што заключэнне доктара Д.Шчыгельскага – паклёп на Аляксандра Лукашэнку, трэба правесці незалежную экспертызу яго псіхічнага стану. З боку адказчыка абавязкова будзе выстаўленае патрабаванне аб правядзенні псіхіятрычнай экспертызы Аляксандра Лукашэнкі з прыцягненнем аўтарытэтаў у галіне псіхіятрыі як з Беларусі, так і з іншых краінаў, у тым ліку і з Расіі. Інакш дзеянні праваахоўных органаў Беларусі могуць быць прызнаныя звычайнай вульгарнай помстай за публікацыю непрыемнага для цяперашняй улады матэрыялу, які атрымаў вялікі рэзананс у краіне і за яе межамі.

Пакуль што ўвогуле невядома, каго збіраюцца вінаваціць прадстаўнікі ўлады: Д.Шчыгельскага, газету НАША СВАБОДА, галоўнага рэдактара Паўла Жука альбо некага яшчэ. Між тым сам факт менавіта такой рэакцыі ўлады на газетную публікацыю вельмі красамоўны і сведчыць пра жаданне кіраўнікоў дзяржавы ўзяць пад татальны кантроль сродкі масавай інфармацыі і пазбавіць грамадзянаў нашай краіны права на атрыманне аб'ектыўнай і важнай для грамадскасці інфармацыі.

Нягледзячы на тое, што Пракуратура паведамляе пра «следчыя дзеянні», якія пачаліся па справе аб «паклёпе», нам пакуль што нічога невядома пра гэтыя дзеянні. Аднак гэта не азначае, што так будзе і далей. Мы чакаем, што ўжо сёння-заўтра да нас завітаюць прадстаўнікі следчай групы. Магчыма, што адначасова будзе наладжанае цкаванне НАШАЙ СВАБОДЫ – штрафамі, папярэджаннямі, забаронамі, іншымі прыдзіркамі...

Нягледзячы на гэта, пакуль магчыма, газета НАША СВАБОДА будзе выходзіць у свет. ■

# Следчая група па справе Завадскага на мяжы роспуску

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Усе злачынствы ўчынены рознымі людзьмі, але ўсе яны ўваходзілі ў агульную злачынную групоўку. Ігнатовіч, паводле словаў Шарамета, «быў адной з ключавых фігур». Тым не менш сам Ігнатовіч, які знаходзіцца ў следчым ізалятары, сваёй віны не прызнае, адмаўляецца хадзіць на допыты, куды яго дастаўляюць на насілках, выкрыквае «Няхай жыве прэзідэнт Лукашэнка!» і пагражае следчым «выразаць» іх сем'і.

Справа па забойствах у Жодзіна і Барысаве ўжо фактычна завершаная і, магчыма, хутка будзе перададзеная ў суд, праўда, адзначыў Шарамет, «калі яе не замаўчаць». Гэтыя злачынствы маглі быць раскрытыя некалькі месяцаў таму — следчыя выходзілі на падазроных, у прыватнасці, байца «Алмаза» Маліка. Але іх спынялі. Ды і ў саміх следчых узнікалі сумненні: усё ж пад падазрэннем аказваліся супрацоўнікі элітнага падраздзялення МУС.

На стадыі завяршэння справа па Мар'інай Горцы. Замінка ў тым, што адзін з асноўных сведкаў — таксама былы баец «Алмаза» — зараз жыве ў Ізраілі. «Усё залежыць ад пазіцыі цяперашняга генеральнага пракурора Віктара Шэймана і міністра ўнутраных справаў Уладзіміра Навумава», — сказаў Шарамет. Па гэтых справах ёсць сведкі, апазнаўшыя некаторых забойцаў, рэчавыя і іншыя доказы.

На думку Шарамета, адстаўкі старшыні КДБ Уладзіміра Мацкевіча і генеральнага пракурора Алега Бажэлкі адбыліся з-за таго, што следчая група атрымала звесткі аб дачыненні некаторых супрацоўнікаў спецыяльнай брыгады хуткага рэагавання МУС, якую ўзначальвае Дзмітрый Паўлючэнка, да шэрагу злачынстваў, у тым ліку выкраданняў Віктара Ганчара і Юрыя Захаранкі. Паўлючэнку затрымалі. Быў праведзены вобшук у яго ў доме і на службе. Аднак дзеянні следчых былі спыненыя асабіста сакратаром Савета бяспекі Віктарам Шэйманам. Пасля гэтага Паўлючэнка быў выпушчаны са следчага ізалятара. А Мацкевіч і Бажэлка пазбавіліся сваіх пасадаў. «Галоўная ахвяра гэтых перастановак — Мацкевіч і следчыя КДБ, — сказаў Шарамет. — Яны былі ўпэўненыя, што Лукашэнка не ведаў пра супрацьпраўныя дзеянні некаторых супрацоўнікаў спецбрыгады МУС, якая непасрэдна падпарадкоўвалася сакратару Савета бяспекі, і разлічвалі, што яны будуць пакараныя. Атрымалася ж наадварот. Прэзідэнт выступіў у абарону гэтых людзей». ■

БелаПАН

# Прэзідэнцтва Буша – адлік пайшоў

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Вядома, што ў прэзідэнцкі лімузін кідалі апельсінамі, яйкамі і нават тэніснымі мячамі.

Але, як бы там ні было, Джордж Буш стаў 43-м прэзідэнтам Амерыкі, і наступныя чатыры гады з гэтым давядзецца лічыцца грамадзянам не толькі ЗША, але і ўсяго свету.

Увечары ў суботу новаму прэзідэнту разам з жонкай спатрэбілася наведаць восем афіцыйных інаўгурацыйных балоў – ягоныя прыхільнікі святкавалі пачатак прэзідэнцкага тэрміну. Адзін з балоў адбываўся на вакзале *Union Station*, другі – у нацыянальным будаўнічым музеі, яшчэ адзін – у гатэлі *Marriott*.

У гэты ж дзень была замененая інфармацыя пра прэзідэнта на афіцыйным сайце Белага дома www.whitehouse.gov. Старая інфармацыя пра Біла і Хілары Клінтан была замененая на звесткі пра Джорджа і Лауру Буш.

Цалкам святкаванне інаўгурацыі новага прэзідэнта каштавала каля 35 мільёнаў долараў. Большая частка гэтых грошай паступіла ад буйных карпарацыяў ЗША.

Адным з першых рашэнняў Дж.Буша на новай пасадзе стала распараджэнне пра адтэрміноўку апошніх пастановаў адміністрацыі Біла Клінтана.

Справа ў тым, што перад сыходам з пасады прэзідэнта ЗША Біл Клінтан задаволіў 140 прашэнняў аб памілаванні, выконваючы такім чынам сваё абяцанне працаваць да апошняй гадзіны свайго прэзідэнцтва.

Сярод памілаваных быў і родны брат Б.Клінтана Роджэр. У 1980-х гадах яго абвінавачвалі ў захоўванні наркотыкаў, а ў 1985 годзе прысудзілі два гады турмы. Апроч таго, Біл Клінтан вырашыў памілаваць былога дырэктара Цэнтральнага разведвальнага агенцтва Джона Дэйча. Ён абвінавачваўся ў тым, што захоўваў дзяржаўныя таямніцы ЗША на сваім хатнім камп'ютэры.

У лік памілаваных уваходзілі таксама бізнес-партнёр сям'і Клінтанаў С'юзан МакДугал і чыноўнік з першай адміністрацыі Б.Клінтана Генры Сіснерас. Абодвух іх абвінавачвалі ў фінансавых махінацыях.



Цяпер памілаванні часова прыпыненыя. Сваё рашэнне па іх мусіць прыняць Дж.Буш.

Новы прэзідэнт вырашыў часова перапыніць новыя прызначэнні ва ўрадавых ведамствах. Апроч таго, ён выдаў «маральны кодэкс» для федэральных служачых. У прыватнасці, Джордж Буш абавязаў чыноўнікаў, якія сыходзяць з дзяржаўнай службы, не займацца лабісцкай дзейнасцю на працягу года пасля іхнага сыходу. Ён таксама абвясціў нядзелю 21 студзеня «нацыянальным днём малітвы і ўдзячнасці». Гэтае рашэнне Дж.Буш патлумачыў тым, што не зможа паспяхова працаваць на сваёй пасадзе «без падтрымкі Бога і малітваў людзей». Новы прэзідэнт заклікаў суграмадзянаў «сабрацца разам у дамах і месцах набажэнстваў і памаліцца кожнаму і ўсім разам, і падзякаваць Богу за ўсе даброты гэтай вялікай і цудоўнай зямлі». ■

# Страна воров

*Окончание, начало на стр.1*

Впрочем, злопыхательская радость обывателя по поводу ареста одного отдельно взятого представителя новорусской, с позволения сказать, «элиты» проистекает вовсе не из предвкушения торжества американского правосудия. А вытекает из простого обывательского чувства: «Ну хоть одна из этих толстых наглых морд наконец угодила в кутузку». А между прочим занудное американское правосудие – это вам не продажный российский мент – что в местном, районном околотке, что в генпрокуратуре на Большой Дмитровке в Москве, который либо за деньги, либо по телефонному приказу вышестоящего начальства (а оно приказывает – тоже либо за деньги, либо по приказу вышестоящего начальства, а оно, в свою очередь, тоже... ну и так далее) готов наплевать и растереть любой закон и любую процедуру. То есть Палычу придется посидеть.

Почти что радостный российский консул в Америке в день поимки экс-завхоза уже было провещал в эфир, что, мол, «щас» мы ту все с американосами вопросы порешаем по понятиям – и отправится наш Палыч на бал со свечами. Хрен он туда отправится.

А пока он будет сидеть в гнусном бруклинском застенке в окружении предельно корректных – до тошноты – копов ирландской, негритянской и латиноамериканской «национальности», пусть подумает о судьбах Родины. Вернее, о судьбах ее обывателей. Которых именно благодаря таким вот бородиным, кобзонам (а думского депутата под такой фамилией в четверг тоже не пустили в Америку как лицо с криминальной точки зрения подозрительное), а также прочим пашам-мерседесам и пашам–мабетексам, толпами наводнившими все коридоры власти в России, считают поголовно жуликами и бандитами. И обращаются соответственно – не дают виз, все более откровенно презирают в зарубежных присутственных местах, а с мнением представителей «Этой Страны» уже практически не считаются в сколь-либо важных международных вопросах. Допрыгались. В иных странах уже подозрительно косятся на все кредитные карточки, эмитированные российскими банками, а лицам «российской национальности» и с соответствующими правами, бывает, отказываются давать в прокат машины.

Впрочем, что там завхозы и «бедные» депутаты Государственной Думы, через одного носящие «Ролексы», которые вроде бы не купишь на их даже многолетнюю думскую зарплату. Вот взять хотя бы премьер-министра нашего – человека с лицом отличника-хорошиста по фамилии Касьянов. Вроде приличный человек, а ведь тоже ведь – «кидала». Не будем, говорит, отличник-хорошист, долги вам возвращать, господа хорошие. Хотя у нас за прошлый год положительный внешнеторговый баланс – 50 миллиардов, хотя золотовалютные резервы ЦБ увеличились за год в два раза, хотя речь идет о «жалких» 3 миллиардах долларов платежей в год. Касьянов говорит, что на эти деньги мы, мол (правительство его, то есть), будет помогать бедным, сирым и убогим. И весь мир понимает, что он врет. Эти деньги он, его правительство и миллионы российских чиновников будут продолжать разворовывать, либо бездарно тратить на то, что никакие сирые, бедные и убогие никогда бы публично не одобрили. Они будут строить новые атомные подводные лодки ценой в миллиард долларов. И новые парламентские дворцы (в Питере, разумеется, на родине нового Вождя). А также дворцы садово-парковой архитектуры на всяких там Рублево-Успенских шоссе, а также на славной испанской и французской и прочей Ривьере. А еще они будут воевать в Чечне и давать деньги тамошним кадыровым и гантамировым (то есть «законным» бандформированиям), а те их тоже будут разворовывать. И будут покупать себе бесконечные «мерседесы», а на машинах ниже уровнем у нас даже налоговая служба ездить считает западло. Впрочем, почему «даже»? Ведь мы же считаем это уже естественным.

А нас будут продолжать во всем мире считать ворами и бандитами. А мы будем продолжать голосовать и голосовать до одури за бородиных, кобзонов, абрамовичей и прочих не менее народных губернаторов, еще больше укрепляя мир в его именно таком мнении о русских, а также в другом, не менее широко утвердившимся – по поводу того, что просторы России давно уже населяет в большинстве своем быдло, которое если и осуждает воровство и мздоимство, то только до той поры, пока само не дорвется до этого «корыта». ■

Gazeta ru.



П.Бородин перед судьей, рисунок сделан в помещении суда

ЗАМЕЖЖА

# Латвія ўшанавала ахвяраў АМАПа

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

У Латвіі 20 студзеня – дзень смутку. У суботу там ушаноўвалі памяць ахвяраў сумнавядомага «рыжскага АМАПа». 20 студзеня 1991 года галаварэзы ў форме спрабавалі захапіць будынак міністэрства ўнутраных справаў у Рызе і аднавіць савецкую ўладу ў Латвіі. У выніку нападу загінулі мірныя грамадзяне.

Прэзідэнт Латвіі Вайра Віке-Фрэйберга правяла 20 студзеня сустрэчу са сваякамі ахвяраў. Яна выказала ўдзячнасць усім патрыётам Латвіі, якія ў той час не пабаяліся магчымага ўварвання савецкіх вайскоўцаў і выйшлі на вуліцы Рыгі, каб адстойваць незалежнасць. Тады тысячы людзей дзень і ноч знаходзіліся на вуліцах, будавалі барыкады, палілі кастры, выстройвалі «жывое кола» вакол стратэгічна важных аб'ектаў.

Калі АМАП штурмаваў будынак МУС Латвіі, у Рызе загінулі 5 чалавек, сярод іх 2 журналісты-аператары і адзін навучэнец школы.

«Лёс так распарадзіўся, што трагедыя вашых сем'яў і ваша асабістая трагедыя стала трагедыяй усяго народа. Ніхто не можа палегчыць вашы пакуты, але мы можам сказаць: ваша страта – гэта наша страта. Вашы сваякі ўвайшлі ў гісторыю Латвіі. А іхнія імёны – у нашых сэрцах», — сказала Вайра Віке-Фрэйберга сваякам ахвяраў АМАПа.

Увечары 20 студзеня жыхары Рыгі запалілі на вуліцах кастры – гэтаксама як 10 гадоў таму, — у памяць пра часы барацьбы за незалежнасць. ■

# «Газавую прынцэсу» адправілі ў адстаўку

**Міхась КАРПОВІЧ**

Віцэ-прэм'ер украінскага ўрада Юлія Цімашэнка, якая знаходзіцца пад следствам, была вызваленая ад выканання сваіх абавязкаў прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам.

Мы ўжо паведамлялі, што ўкраінская Феміда прад'явіла абвінавачванне Ю.Цімашэнка, якая курыравала ў Кабінеце міністраў паліўна-энергетычны комплекс. Генеральная пракуратура абвінавачвае яе ў кантрабандзе, дачы хабару, службовым падлогу і адмыцці грошай. У кожным эпізодзе фігуруюць мільёны долараў, якія праходзілі праз тагачасную кіраўніцу карпарацыі «Адзіныя энергасістэмы Украіны», асноўнага пастаўшчыка газу на тэрыторыю краіны.

Леанід Кучма, які ўласным рашэннем адхіліў ад пасады Юлію Цімашэнка, нават не парадзіўшыся з яе непасрэдным начальнікам – прэм'ер-міністрам Віктарам Ючшанкам – паведаміў, што кіраваўся выключна прашэннем Генеральнай пракуратуры.

У сваю чаргу, Ю.Цімашэнка заявіла, што яе звальненне — «ярчэйшы доказ таго, што камерцыйнае атачэнне прэзідэнта куды мацнейшае, чым урад і тыя ягоныя чальцы, якія імкнуцца навесці парадак у краіне». Яна таксама паведаміла, што не збіраецца з'язджаць з краіны і што пераходзіць у апазіцыю да існуючага рэжыму. ■

# Эстрадзе сказалі «не!»

**Ірына СТАРЦАВА**

Новым прэзідэнтам Філіпінаў замест карупцыянера і былога акцёра Джозэфа Эстрады стала лідэр апазіцыі Глорыя Ароя, якая дагэтуль была віцэ-прэзідэнтам краіны.

У мінулую суботу Глорыя Макапагал-Ароя была прыведзеная да прысягі ў якасці новага прэзідэнта Філіпінаў. Яна ўрачыста паабяцала прытрымлівацца Канстытуцыі і, калі спатрэбіцца, памерці за Філіпіны.

На ўрачыстай цырымоніі прынцця прысягі прысутнічалі вышэйшыя ўрадавыя чыноўнікі Філіпінаў, а таксама замежныя дыпламаты.

У звароце да нацыі Глорыя Ароя паабяцала перамагчы беднасць і вярнуць годнасць філіпінскаму народу. Яна таксама казала пра эканамічныя і палітычныя рэформы.

Яе папярэднік і былы шэф Джозэф Эстрада быў адхілены ад улады па абвінавачванні ў карупцыі. Апазіцыя абвінавачвае яго ў прысвойванні 65 мільёнаў долараў.

Джозэфа Эстраду адмовіліся падтрымліваць кабінет міністраў, армія і паліцыя. Ён таксама стаў першым кіраўніком дзяржавы ў Азіі, за адхіленне якога ад улады прагаласавала ніжняя палата парламента.

Учора Глорыя Ароя пачала перамовы з партыямі і рухамі аб фарміраванні новага ўрада ў краіне. Галоўнае патрабаванне – распрацоўка эканамічных рэформаў. ■

